



# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (296) | ГОД VII | 14 КАСТРЫЧНІКА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

ВЕРА ЛЕЎЧУК

## САКОЛЬСКАЯ ЛЕГЕНДА

Новыя часы новыя родзяць легенды. Аб адной такой хачу расказаць. Будзе гэта легенда аб людзях звычайных, не асілках, і без сяміпудовага молата ў руках. Наадварот — людзі гэтыя новымі спосабамі твораць новую легенду: ведамі, розумам, клапатлівасцю аб людзях.

Не за сямю гарамі, не за сямю рэкамі жывуць яны, а ў Сакольскім павеце. (Саколка — 40 км на паўночны ўсход ад Беластока).

Каля двух год таму тут заварушылася. Пачала кшталтавацца, вырастаць новая ідэя — ідэя гігіенізацыі вёскі. Першая ў ваяводстве. І пакуль адзіная.

«Ідэю гігіенізацыі вёскі пачала прапагаваць у нас др. Марыя Харукова — навуковы карэспандэнт Інстытуту Медыцыны працы і гігіенізацыі вёскі ў Любліне, — вельмі добры лекар і чалавек высокіх грамадскіх ідэалаў.» Так гаворыць др Антон Доха — другі з тых, хто выступіў за гігіенізацыю сакольскай вёскі. Потым знайшлося многа іншых — вялікіх прыяцеляў, як іх называе др Доха, гэтай справы: аддзел здароўя, павятовая амбулаторыя, санітарна - эпідэміялагічная станцыя, камітэт партыі, аддзел камунальнай гаспадаркі, інспектарат асветы, саюз вясковай моладзі, ПЦК... Новая ідэя знайшла сабе прыхільнікаў у павятовых улад. А гэта ж першая і важная ступень, каб прабірацца далей: углыб і ўшыр вёскі. Бо вёска, толькі вёска тут найважнейшая. Мае поўную рацыю др Доха, калі гаворыць, што вясковы чалавек працуе ад світання да змроку, а потым валіцца ў ложак, каб з наступным світаннем зноў падняцца да працы. Не хапае яму самай простай культурнай разрыўкі.

Часта даводзіцца чуць высакародныя, як нехта сказаў, лозунгі: на вёску з кніжкай, на вёску з песняй, на вёску з ідэалагічнай працай. Нельга апрavергнуць — лозунгі гэтыя патрэбныя і ўсе, лепш ці горш, але рэалізуюцца. Многа робіцца ў нас для духа. А цела? Дух здаровы толькі ж у здаровым целе. Адным словам, з думкай аб здаровым, свежым, чыстым целе Саколка выдзвінула новы лозунг: **на вёску** з вадой. Дзе як дзе, але на вёсцы за ваду плаціць не трэба, — скажа скептык. І не будзе мець рацыі. Плаціць не трэба, але вады на вёсцы часта не хапае. А ў сакольскіх вёсках гэтая праблема напэўна вастрэйшая, чым, напрыклад, у гайнаўскіх. Дзве студні на ўсю вёску — можна сабе ўявіць. Таму так важную пазіцыю ў гігіенізацыі вёскі Сакольскі павятовы камітэт гігіенізацыі вёскі ўдзяляе будове артэзіянскіх калодзежаў (здаровая, чыстая вада і не высыхае). На 1963 год Саколка мае ліміт на 6 такіх калодзежаў. Будуць яны ў Янове, Старой Разадранцы, Кусцінцах, Белавусах, Крушынянах і Бомблі.

Другой важнай справай у гігіенізацыі вёскі з'яўляецца будова лазняў. Хоць бы такіх малых (паровых) на 6—8 асоб. Кошт такой лазні да 10 тысяч злотых. А выгада? Што і гаварыць? Нікога ў гэтым не трэба пераконваць. Але цяжка аб хуткіх выніках, — гэта факт. Усе зацікаўленыя ў гігіенізацыі сакольскай вёскі пры кожнай нагодзе гавораць з людзьмі, малююць перспектывы, тлумачаць, а значных зрухаў пакуль яшчэ няма, хоць вядома, што адклад не ідзе ў лад. І што з гэтага? Др Доха кажа, што «нельга рук складаць,

(Працяг на стар. 5)



Заўсёды гатовы верна служыць народу.
Фота: К. Яцкевіч

ШУКАЮ ПРАЦЫ...

## — НЯМА ДЗЕ РУК ЗАЧАПІЦЬ...

— Глупства гаворыце!

Так можна адказаць аднаму-другому «наракайлу». Вось апошнія даныя. На дзень 31 жніўня зарэгістравана на Беласточчыне 142 мужчын, шукаючых працы, а вольных месц было роўна 3.900.

— Палічыце, колькі выходзіць на аднаго «нябогу»?

Маўляў, перабірай, не перабярэш! У выніку ўзнікае нездаровая ў нашай гаспадарцы з'ява: не ты шукаеш працы, а наадварот, праца шукае цябе. Нахабна, гвалтоўна. Людзі перастаюць не цаніць, шанаваць.

Адносіцца гэта ў першую чаргу, да моладзі.

Аляксандр Лушчынскі, старшыня ГРН у Грыгораўцах, у сваіх успамінах «Нівы» трапна акрэсліў сітуацыю: «...Хоціць, каб бацька падкруціў вуха за хуліганства, а сын збіраецца з хаты і ўжо на другі дзень мае работу за 2 тыс. зл. у месяц».

Кіраўнікі фабрык і прадпрыемстваў няспынна звоняць у пасрэдніцтвы.

— Дайце людзей. Ратуйце!

— Мужчын няма, маем шмат жанчын...

— Ага, — голас у тэлефоннай трубцы ціхне, урэшце адзываецца. — Пабачым, пачакаем.

Дырэктар чакае. Месяц, два месяцы. На работнікаў — мужчын.

А жанчын? Не, не хоча.

Зарэгістравана 1.181 жанчын, шукаючых працы, з якіх толькі для 398 магчыма забяспечыць заробак.

Кіраўнік Кірык з ваяводскага пасрэдніцтва ўпэўнены:

— Палавіну вольных «мужскіх» месц працы маглі б заняць жанчыны.

Маглі б... каб не дырэктарская недаверлівасць. Напрыклад, у будаўніцтве. Многа чаго жанчына здолела б тут рабіць — маляр, аддзелачнік, электразваршчык, шкляр. Мужскую ж сілу, калі на яе гэткі крызіс, выкарыстаць там, дзе сапраўды жанчына не справіцца з увагі на фізіялагічныя асаблівасці арганізма.

Зрэшты, мабыць, непатрэбна злуюся, бо самое жыццё ўжо прымушае шырэй, чым дагэтуль, карыстацца рэзерва-

(Працяг на стар. 4)

## АЛЯКСЕЙ КАРПЮК старшынёй бельскага аддзела

Нядаўна ў Бельску адбылося пасяджэнне праўлення мясцовага аддзела БГКТ, на якім абмяркоўвалася дагэтуляшняя праца Таварыства ў Бельскім павеце. На гэтым пасяджэнні адбылася таксама рэарганізацыя праўлення. Выведзены са складу праўлення малаактыўныя члены, а на іх месца ўведзены новыя. Старшынёй рэарганізаванага праўлення выбраны Аляксей Карпюк, падінспектар аддзела асветы ў Бельску, член прэзідыум ГП БГКТ.



НА ВЫГАНЕ
Фота: К. Лес

## 10 год беластоцкага радыёвяшчання

**У кастрычніку г.г. спаўняецца 10 год беластоцкага радыёвяшчання. З гэтага выпадку складаем калегам з беластоцкага радыё сардэчныя віншаванні і пажаданні далейшых творчых поспехаў.**

# Расізм з глыбокімі карэннямі

Калі два гады таму ў Літ Рок узняліся расісцкія эксцэсы, адказныя палітыкі Злучаных Штатаў аўтарытэтна заявілі, што гэта ўжо апошнія антынегрыціянскія выбрыкі на амерыканскай зямлі, што яны (гэтыя палітыкі) спыняць іх. Гэтая заява знайшла адлюстраванне ў законе Кангрэса ЗША, які фармальна гарантаваў поўную роўнасць усяму насельніцтву Штатаў.

І што ж пасля ўсяго гэтага выявілася? Перад усім тое, што некаторыя законы і пастановы федэральных улад не маюць сілы, якая абавязвала б усіх дзяржаўных верхаводаў, і што не ліквідуюць аўтаматычна глыбока пусціўшага карэнні, асабліва на поўдні, расізма. Выявілася менавіта, што не толькі сімвалічны Літ Рок, але таксама сядзіба ўніверсітэта штата Місісіпі, мясцовасць з шумнай назвай — Аксфорд, можа стацца арэнай шавінізма і лінча над чорнымі.

Гісторыя, аб якой пішу, якая маланкай абляцела ўвесь свет, пачынаецца 1 кастрычніча г.г. У гэтым дні ў ЗША, як і ў шмат іншых краінах, адкрываецца навучальны год у вышэйшых навучальных установах. Запісаўшыся раней ва ўніверсітэт у Аксфордзе, студэнт Мерэдзіт хацеў у гэты дзень удзельнічаць ва ўрачыстасці адкрыцця навучальнага года і атрымаць залікавую кніжку — неабходны дакумент у часе вучобы. Няшчасцем Мерэдзіта было тое, што ён мае чорную скуру. Не мог яе змяніць пры ўваходзе на тэрыторыю ўніверсітэта. У варотах кінулася тады на яго зграя разбэшчаных белых расістаў і пачала эксцэсы, якіх ужо ў Штатах мела не быць.

У беспарадках удзельнічала — паводле ацэнкі журналістаў — некалькі тысяч асоб, якіх пачаткова акрэслівалі як студэнтаў. Потым выявілася, што ў натоўпе атакуючых Мерэдзіта і яго абаронцаў з федэральнага міністэрства справядлівасці знаходзіцца шмат не студэнтаў, і то прыбыўшых з іншых штатаў. Натоўп атакаваў, абкідваючы прадстаўнікоў цэнтральных улад каменнямі, перакідваючы аўтамашыны і падпальваючы іх. Усё гэта нагадвала славутыя ночы забойстваў з-за вугла Ку Клюкс Клана.

Беспарадкі ў Аксфордзе былі творам не толькі прымітыўнага натоўпа. Падтрымліваў іх горача губернатар Місісіпі — Барнет, які яшчэ ў верасні заявіў, што пойдзе хутчэй у турму, чым дапусціць негра ва ўніверсітэт ў Аксфордзе.

Цяпер, калі цэнтральныя ўлады ў імя літары права сталі на бок негра, губернатар Барнет крычаў патэтычным голасам: «Федэральны ўрад фізічна апанаваў Місісіпі» і што ў сувязі з гэтым «барацьба будзе весціся далей у судах».

Не ўваходзім далей ў сутнасць спрэчкі, у якой — як выяўляецца — губернатар можа шантажаваць увесь амерыканскі ўрад. Фактам аднак з'яўляецца тое, што гэты ўрад пры цэлым дэкларатыўным шуме нічога не зрабіў, каб уціхамірыць расісцкага губернатара і яго памагатых з гатунку былога генерала, фашыста Валькера. Гэта ён менавіта у часе беспарадкаў ў Аксфордзе заклікаў белае насельніцтва супраціўляцца ўладам. Генерал па гэтай прычыне не атрымаў ніякага пакарання. Паліцыя, замест у турму, завезла генерала ў дом вар'ятаў, адкуль ужо наступнага дня яго адпусцілі.

Усё гэтае выклікае вельмі сумныя рэфлексіі на тэму амерыканскай свабоды і дэмакратыі, у якой права на вучобу аднаго негрыціянскага студэнта вымушана бараніць некалькі тысяч узброеных салдат.

**Уладзімір ЛАЗІНСКІ**

# СЛАЎНЫЯ ЛЮДЗІ ПАДЛЯШША

Ігнат Даніловіч нарадзіўся 20 ліпеня 1789 года ў вёсцы Грынявічы, у павеце Бельск - Падляшскі, у сям'і ўніяцкага святара Мікалая, беларуса па нацыянальнасці.



**ІГНАТ ДАНІЛОВІЧ 20.VII.1789 – 30.VI.1843**

Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Драгічыне - на Бугу. Потым Ігнат Даніловіч перайшоў у Ломжынскую чатырохкласную піярскую школу, дзе знаходзіўся пад кіраўніцтвам свайго адукаванага дзядзькі ксёндза - піяра Міхала Даніловіча. У Ломжы тады працавалі такія вядомыя педагогі, як Алойзы і Людвік Асінскія, Войцех Швейкоўскі, пазнейшы рэктар Варшаўскага універсітэта, ксёндз Фалькоўскі, вядомы потым як аснавальнік Інстытута для глуханямых. Ужо ў гэтай школе Ігнат Даніловіч выявіў глыбокую цікавасць да прававедзення і гістарычных навук.

Пасля заканчэння курса ў гэтай школе Даніловіч паступіў у Ломжы хатнім настаўнікам да памешчыка Будзішэўскага, але потым, у 1804 годзе, рэктар Чарнецкі назначыў яго назіральнікам шляхецкага канвікта піяраў у Ломжы і настаўнікам I і II класаў.

Калі яго дзядзька пераехаў у Супрасль, тады і Ігнат Даніловіч у мэтах удасканалення нямецкай мовы паступіў у нядаўна ўзнікшую і пабудаваную па-прускаму прыкладу гімназію ў Беластоку, якую ён закончыў у 1807 годзе. Развіццю навыкаў архіўнай працы садзейнічала багатая бібліятэка Супрасльскага манастыра, куды ён час ад часу заглядваў. У гэты час развіваецца яго цікавасць да гісторыі свайго роднага Падляшша. Іменна таму ён пачынае надаваць вялікае значэнне архіўным крыніцам і дакументам, якія захоўваліся у царкоўных, касцельных і манастырскіх архівах і бібліятэках Падляшша.

Ігнат Даніловіч у мэтах працягвання сваёй адукацыі ў 1810 годзе паступае на юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта.

## У ВІЛЕНСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

На юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта працаваў тады вядомы італьянскі прафесар Алойзы Капеллі. Ён чытаў лекцыі па рымскаму, угалоўнаму і кананічнаму праву. Прафесар Капеллі звярнуў увагу на выдатныя здольнасці Даніловіча, аказваў яму ўсебаковую падтрымку, прывіваў яму навыкі навуковай працы.

Ігнат Даніловіч 20 чэрвеня 1811 года быў узведзен у кандыдаты праў і заняў першае месца ў конкурсе на лепшую студэнцкую працу, за што атрымаў заслужаную ўзнагароду ад Вучонага Савета універсітэта. Застаўшыся пры універсітэце для працягвання заняткаў, ён хутка заслужыў вучоную ступень магістра праў.

У 1812 годзе ў сувязі з французска - рускай вайной заняткі ва ўніверсітэце былі перарваны. Тады Ігнат Даніловіч паступіў на службу ў якасці сакратара пры генерал - губернатары Беластоцкай вобласці Фэр'е, назначаным Напалеонам. Гэтую службу ён выкарыстоўваў, між іншым, для авалодвання французскай мовай.

Пасля заканчэння французска - рускай вайны Ігнат Даніловіч вярнуўся зноў у Вільню, дзе, як яму раілі Капеллі і Алдакоўскі, заняўся старанным вывучэннем рукапісаў Літоўскага Статута, адкрытым ім у Порыцкай бібліятэцы, а таксама іншых помнікаў старажытнага літоўска - беларускага заканадаўства.

Ігнат Даніловіч у 1814 годзе атрымаў званне дацэнта і пачаў выкладаць мясцовае грамадзянскае права. У 1817 — 18 гадах па навуковай камандзіроўцы Віленскага універсітэта ён пабываў у Варшаве, Пецярбургу і Маскве, дзе вывучаў справаводства ў розных службовых месцах і справаводства судовага працэсу. Ён таксама азнаёміўся з бібліятэкамі і архівамі Варшавы, Пецярбурга і Масквы, адкуль дастаў багаты матэрыял, які адносіўся да старажытнай гісторыі Літвы, Беларусі і Украіны.

Пасля звароту ў Вільню Ігнат Даніловіч быў зацверджаны ад'юнктам па кафедры рускага грамадзянскага і ўгалоўнага праў і польска - літоўскіх законаў. Акрамя таго, яго назначылі сакратаром аддзялення маральна - палітычных навук.

У 1821 годзе Ігнат Даніловіч на аснове запрашэння літоўскага генерал-губернатара Рымскага - Корсакава, увайшоў у якасці члена ў склад камітэта па прывядзенню ў вядомасць дзейнічаўшых тады ў Літве і Беларусі крыніц права. Ігнат Даніловіч і І. Лялевель падрыхтавалі папраўленае выданне Літоўскага Статута. Сыгізмунда І-га. Яны стаялі ў камітэце за выданне старога беларускага тэксту Статута з пазнейшымі варыянтамі. Аднак на гэта не згадзіўся царскі ўрад.

У 1822 годзе І. Даніловіч атрымаў званне экстраардынарнага прафесара, а ў наступным годзе — ардынарнага па кафедры мясцовага права.

## НАВУКОВА - ДЫДАКТЫЧНАЯ ПРАЦА

Студэнты універсітэта вельмі любілі Даніловіча і адносіліся да яго з глыбокай пашанай. Ён змог прывіць у іх інтарэс да гісторыі Літвы і Беларусі, да іх старажытнага заканадаўства.

Віленскія студэнты, галоўным чынам уніяты-беларусы, прывозілі свайму прафесару цэлыя груды пергаментных і іншых рукапісаў, пераважна з уніяцкіх цэркваў і манастыроў. Дзякуючы ўсяму гэтаму „lepsze czasy dla prawa ojczystego nastąpiły pomiędzy r. 1815 a 1823, i to dzięki prywatnej inicjatywie, a do tego wypadkowo. Po wojnach napoleońskich, gdy w rozmaitych krajach zaczęła przebudzać się idea narodowości, w Wilnie grono młodzi, przeważnie synowie księży unickich, w poszukiwaniu danych dla swej narodowości i religii zaczęli zbierać i odczytywać stare pergaminy. Wyrobiła się w nich nawet namiętność do paleografii. Czego innego szukali, a co innego znaleźli. Zamiast bowiem źródeł do dziejów Kościoła Ruskiego w Polsce, odszukali materiały do dziejów starożytnego prawa krajowego. Na czele tej młodzieży stał Michał Bobrowski, Ignacy Daniłowicz, Antoni Marcinkowski. W tym nowym kierunku przedsięwzięte badania rozwijały się pomyślnie, coraz to szersze zakreślając kręgi. Przybył wreszcie Lelewel, dojrzał Ludwik Sobolewski i Platon Sosnowski, znalazł się i Żegota Onacewicz — wytworzyła się więc cała falanga pracowników" (J. Bieliński, Uniwersytet Wileński, t. II, Kraków, 1899—1900, str. 386—7).

(Працяг на стар. 3)

# ФУТБОЛ

Несумненна, увагу аматараў футбола ў мінулым тыдні прыцягнуў фінальны старт чэмпіяната СССР. У г.з. залатой дзюжыне, 12 камандах, якія змагаюцца за залатыя медалі чэмпіёнаў, першыя гульні прайшлі амаль без неспадзянак. Выйгралі фаварыты. Да сюрпрызаў у гэтай групе можна аднесці нічыю лідэра былой першай падгрупы дынамаўцаў Кіева з бакінскім Нафтавікам, які меў вялікія клопаты з атрыманнем пропуска на старт у залатой дзюжыне. Таксама здзіўляе высокая перамога (4:0) маскоўскіх спартакаўцаў над, як бы ні было, уладальнікам кубка СССР, данецкімі шахцёрамі. Гэта магло б падтрымаць нашу думку, выказаную перад фінальнымі гульнямі, што былая другая падгрупа мацнейшая за першую. Аб гэтым сведчыць таксама пераканаўчая перамога тбіліскіх дынамаўцаў (2:0) над кішынёўскай Малдовай, якая вывела тбілісцаў з трэцяга на першае месца, і не менш удалае выступленне маскоўскіх тарпедаўцаў, якія таксама перасунуліся на два месцы ўверх, выйграўшы 3:1 з растоўскімі армейцамі на іх жа полі.

Гэтае самае можна сказаць і пра гульні ў дзесятцы, якая змагаецца за пабыт у першым эшалоне. Нягледзячы на тое, што гаспадарамі поля былі тут выключна каманды з першай падгрупы і з гэтага выпадку яны мелі спрыяльныя ўмовы, аднак кутаіскім тарпедаўцам удалося выйграць 3:0 у Вільні з мясцовым Жальгірысам, а куйбышаўскім Крыллям Саветаў 2:0 ў Рызе з Даўгавай. Аднак у гэтай групе і пасля другога тура цяжка будзе атрымаць нейкае больш — менш канкрэтнае ўяўленне аб сапраўдных суадносінах у сілах, бо і гэтым разам гаспадарамі поля будуць каманды з першай падгрупы.

А як згулялі беларусы? Прайгралі ў Алма-Аце мясцоваму Кайрату 0:2 і апусціліся з 18 на 19 месца. Праўда, алмаацінцы ў гэтым годзе патрапілі выйграць 3:0 нават з ЦСКА і пры больш шчаслівых абставінах маглі апынуцца ў лідэрах залатой дзюжыны, аднак ад гэтага «Беларусі» напэўна не саладзей. У наступнай сустрэчы можа яна пакінуць ў Ераване далейшыя два ачкі і яшчэ скочыць уніз. А месц ўнізе толькі тры.

**Аут**



# БАРОН фон ГОЛЬДРЫНГ



## Маёр Штэнгель

Штэнгель быў сапраўды майстрам лавіць фарэль і ганарыўся гэтым. Калі месяц таму Генрых упершыню з'явіўся на беразе рэчкі з вудачкаю, маёр сустрэў яго не вельмі прыхільна. Але малады обер-лейтэнант з такім шчырым захапленнем дзіваваўся яго майстэрству, а сам быў такі бездапаможны, што Штэнгель зліtаваўся і пачаў тлумачыць Генрыху, як трэба лавіць фарэль.

Генрых з цікавасцю і пачцівасцю выслухаў гэтыя

225

настаўленні, папрасіў дазволу прыглядзецца, як спраўляецца з вудачкай маёр, і неўзабаве цалкам здаўся на яго вопыт і аўтарытэт.

За тыдзень Генрых апанаваў усе рыбалавецкія таямніцы і стаў больш запалёным рыбаком, чым сам Штэнгель.

Супольная слабасць зблізіла маёра і обер - лейтэнанта. Тым больш, што розніцу ў чынах ураўнівала аднолькавае арыстакратычнае паходжанне абоіх, сямейныя сувязі фон Гольдрынга з такім уплывовым пры штаб-кватэры чалавекам, як Бертгольд.

Спачатку размовы паміж новымі знаёмымі ішлі толькі навокал рыбацкіх тэм. Але чым далей, кола іх пашыралася, хоць абодва былі асцярожныя і не надта шчырыя. Даведаўшыся, што Штэнгель працаваў у разведцы, — ён уступіў у войска СС пасля ўцёкаў з Англіі, дзе яго мала не выявілі за год да вайны, — Генрых пачаў асабліва ўважліва сачыць за кожным сваім словам і жэстам. Ды і маёр Шэнгель абмінаў вострыя пытанні — шматгадовая служба разведчыка прывучыла яго стрымлівацца, а практыка паказала, што афіцыйны пункт гледжання — заўсёды самы правільны, асабліва з людзьмі, што маюць сувязі з тымі, што стаяць пры ўладзе.

Не зважаючы на такую асцярожнасць, маёр усё больш прыхільна адносіўся да Генрыха. Ён нават два разы на працягу месяца пабываў у яго ў гасцях. Праўда, пры гэтым ён чамусьці ўнікаў сустрэч

226

з Марыяй - Луізай, не любіў нават гаварыць пра яе. Да сябе Штэнгель Генрыха не запрашаў, спасылаючыся на свае кавалерскія абставіны.

Сёння Штэнгель таксама пачаў наракаць, што дома ў яго няма парадку — вось прывязе фарэль, а дзяншчык нават не патрапіць адпаведна яе ўсмажыць.

— Дарэчы, як з рацэптам марынавання? — спытаў Штэнгель, прыпомніўшы, што Генрых калісьці пахваліўся яму, што еў у Сан-Рэмі цудоўна марынаваную фарэль і абяцаў здабыць рэцэпт гэтай стравы.

— Я напісаў гаспадыні гасцініцы, якая мяне ёю частавала, але адказу яшчэ не атрымаў.

— А я дамовіўся ўжо з адным нашым інжынерам. У яго ў хаце разумеюцца ў падрыхтаванні рыбных страў.

Пачуліся чыесьці крокі. Абодва азірнуліся. Ішла да іх пакаёўка з замка.

— Графіня загадала перадаць вас, сіньёр, вось гэта.

Пакаёўка працягнула Штэнгелю маленькі канверт з гербам. Маёр палажыў яго ў кішэню, не чытаючы.

— У вас вялікая вытрымка, барон, — пажартаваў Генрых, калі пакаёўка пайшла, — атрымаць ліст ад такой жанчыны, як Марыя - Луіза, і нават

227



**Старшыня прэзідыума [illegible]РН у Беластоку тав. Ежы Попка перадае магільнік - маўзалей савецкіх салдат, загінуўшых у час вызвалення Беласточчыны, пад апеку Падляшскім войскам КБВ.**

# БУКЕТ КВЕТАК САЛДАТУ

Час, бы дасканалы злодзей, крадзе чалавеку ўсё тое, што калісь было зместам яго жыцця; дакладна, зацірае сляды мінулага і толькі ў падручніках гісторыі зноў і зноў ажываюць здарэнні, якімі яшчэ не так даўно мерылася вартасць і сэнс людскіх учынкаў.

У 1945 годзе на тэрыторыі Беласточчыны плявалі агнём банды: «П—8», «Духа Пушчы», «Гузара», «Жбіка», «Сэмпа», «Выбіцкага», «Клёна», «Вернага», «Кожэня», «Вілька», «Орліча», «Бурага», «Ахмеда», «Быка», «Крэта», «Віктора», «Рэкіна», «Дзенцёла», «Смелага», а крыху пазней — «Млота», «Ганкі», «Блядага» і другія.

У сувязі з цяжкім становішчам урад 6-га чэрвеня 1945 г. прысылае на Беласточчыну баявы атрад, які даў пачатак Падляшскай вайсковай часці Корпуса Унутранай Бяспекі (КБВ). Войскі КБВ да 1953 года безупынна праследвалі бандытаў, мала калі адпачывалі, кожнага дня, кожнай гадзіны можна было спадзявацца баявой трывогі і паездкі на знішчэнне нейкай банды. У кароткім часе перад першымі выбарамі ў сейм (1947 г.) салдаты КБВ правялі, напрыклад, 654 баявыя дзеянні.

Хроніка Падляшскай ваеннай часці КБВ падае не адзін выпадак бяспрыкладнага геразізма і самаадданасці. Сярод шасці тысяч чалавек, загінуўшых на Беласточчыне ад бандыцкіх куль, было шмат салдат КБВ.

На шчасце адышлі тыя гады і змянілася заданне салдат з цёмнасінімі аколышкамі на шапках, але сувязь жыхароў Беласточчыны з Падляшскай вайсковай часцю стала яшчэ больш цеснай, непарушальнай.

Каб хлебароб мог спакойна араць і сеяць, салдаты КБВ толькі на працягу 1958—61 гадоў ачысцілі Беластоцкую зямлю ад звыш ста тысяч мін, снарадаў і другіх адзінак баявога ўзбраення, якія ў кожную хвіліну пагражалі нечаканым узрывам.

Салдаты КБВ у першых гадах пасля вызвалення самі засявалі незагаспадараваную зямлю. Яны і зараз кожны год дапамагаюць дзяржаўным гаспадаркам у час асабліва цяжкага жніўнага перыяду. Вартасць працы, якую выканалі салдаты Падляшскай в. ч. КБВ пры жнівах у апошнім сезоне, ацэньваецца на каля паўмільёна злотых.

Усюды там, дзе чалавеку пагражае нейкая небяспека, войска КБВ заўсёды спяшаецца на дапамогу. Вось, напрыклад, у чэрвені 1957 года непадалёк вайсковых казарм узнік пажар. У бараку аставалася трое дзяцей. Салдат Бэднаж скочыў у бушуючую полымем хату і, не гледзячы на небяспеку, выратаваў дзяцей. Некалькі дзён пазней у надлясніцтве Дайліды загарэўся лес. Пад непасрэднай небяспекай знаходзілася 17 га лесу. Хуткая дапамога салдат КБВ да гэтага не дапусціла.

Войска шмат працуе грамадска. У Беластоцкім парку расце некалькі тысяч дрэў, пасаджаных салдацкімі рукамі, сотні цэглаў умуравалі яны пры пабудове Дома Культуры на Новым Месце ў Беластоку, пралажылі шмат кіламетраў дарог на Беласточчыне і за яе межамі.

Аднак найбольш каштоўным падарункам, які салдаты КБВ падарылі насельніцтву, з'яўляецца школа ў Златорыі — у мясцовасці, дзе калісь актыўна дзейнічалі банды. Пабудова яе каштавала 2 мільёны 218 тыс. зл. 60% гэтых коштаў пакрылі афіцэры, салдаты і цывільныя працаўнікі Падляшскай вайсковай часці. Яны складалі грошы і працавалі, нават прадукавалі цэглу і самі муравалі. Гэты помнік тысячагоддзю польскай дзяржавы з'яўляецца адначасова трывалым помнікам сувязі салдат з народам, з насельніцтвам, дзе яны знаходзяцца.

Войска створана ў нас з мэтай аховы спакойнай, мірнай працы грамадзян. Але служба ў войску з'яўляецца адначасова вялікай школай для моладзі ў літаральным значэнні гэтых слоў.

У падляшскай вайсковай часці на працягу трох апошніх год папоўніла агульную пачатковую адукацыю 325 чалавек. Салдаты маюць таксама магчымасць здабываць сельскагаспадарчыя веды. Двухгадовыя курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі закончыла ў мінулым і бягучым гадах амаль 100 асоб.

Прафесія або тэхнічная спецыяльнасць, вывучаная ў час вайсковай службы, стварае часта маладому чалавеку аснову для далейшага жыцця.

Час ад часу салдаты з цёмнасінімі аколышкамі на шапках з песняй праходзяць вуліцамі Беластока, праязджаюць дарогамі Беласточчыны. Усе з прыхільнасцю азіраюцца за імі. Да дзяўчат аднак маю асаблівую просьбу: калі сустрэнецца вам салдат — і той з КБВ, і кожны іншы — да шчырай усмешкі дакіньце вянок кветак ды падайце салдату. І то не толькі 12 кастрычніка, у Дзень войска польскага.

**Віктар Рудчык**
фота **К. Яцкевіч**



**На шчасце, мінуў той час, калі замест у дошку, трэба было страляць у бандытаў.**

# Слаўныя людзі Падляшша

**(Працяг са стар. 2)**

У так званы Віленскі перыяд сваёй навуковай дзейнасці Ігнат Даніловіч друкаваў артыкулы, заметкі, абзоры, даследванні ў „Dziejach Dobroczynności" і ў „Dzienniku Wileńskim". Вось яго некаторыя навуковыя даследванні:

1. „Historyczny pogląd na zakłady dobroczynne w dawnej Polsce" — „Dzieje Dobroczynności" 1820.
2. „Życie i prace Ignacego Ołdakowskiego" — „Dziennik Wileński", 1822.
3. „Rozbiór ksiąg bibliograficznych Lelewela" — „Dziennik Wileński", 1823.
4. „Opisanie bibliograficzne dotąd wiadomych rękopisów i drukowanych egzemplarzy Statutu Litewskiego" — „Dziennik Wileński", 1823. На рускай мове гэтая ж праца з'явілася ў «Журнале Министерства народного просвящения», 1838, №2.
5. „Wiadomość historyczna o Cyganach". Czytana na publicznym posiedzeniu Uniwersytetu 30 czerwca 1824 r. — „Dziennik Wileński", 1824.

1. Даніловіч разам з І. Лялевелем плённа працавалі над Літоўскім Статутам, рашэннямі сеймаў, адбываўшыхся ў Вільні і Брэсце пры Сыгізмундзе І-шым і Сыгізмундзе Аўгусце. Гэтую працу ўжо падрыхтавалі да друку, але непрадбачаныя падзеі, звязаныя з гісторыяй філаматаў і філарэтаў, перашкодзілі гэтаму. Аднак праца Лялевеля і Даніловіча не загубілася. Дзякуючы дапамозе сябра Лялевеля — [illegible] Дзялыньскага вышла яна з друку ў Познані ў 1841 годзе, пад назвай: „Zbiór praw litewski[illegible]h od r. 1389 do r. 1529, tudzież rozprawy sejmowe o tychże prawach od r. 1544 do 1563".

Прафесар Даніловіч, таксама як і яго сябры па працы праф. праф. Лялевель, Кантрым, Анацэвіч, спачуваў маладзёжнаму філаматцкаму і філарэцкаму руху. Рэктар Віленскага універсітэта Вацлаў Пелікан, кіруючыся сваімі эгаістычнымі мэтамі і ратуючы сваё становішча, прадставіў Навасільцаву праект выгнання з універсітэта наступных прафесароў і ад'юнктаў: Даніловіча, Лялевеля, Кантрыма, Анацэвіча, Галухоўскага і М. Баброўскага, як ненадзейных выхаваўцаў студэнцкай моладзі і віноўнікаў непарадкаў сярод віленскіх студэнтаў.

### ДАЛЕЙШЫ ЛЁС ДАНІЛОВІЧА

З падтрымкай Даніловіча выступіў рускі граф Н. П. Румянцаў. Дзякуючы таму ў пачатку 1825 года Даніловіч быў назначаны ў якасці прафесара расейскага і правінцыянальнага права ў Харкаўскім універсітэце. У 1830 годзе пераводзяць яго ў Пецярбург, дзе ён працуе над літоўска - беларускімі дакументамі Вялікага Літоўскага Княжаства. У 1835 годзе Даніловіч пераязджае ў Кіеў, дзе атрымлівае працу ў якасці прафесара крымінальнага права і паліцэйскіх законаў. У 1839 годзе яго перавялі ў Маскоўскі універсітэт, дзе ён чытаў лекцыі па заканадаўстве Літвы і Польшчы.

За ўвесь гэты апошні час Даніловіч напісаў многа трактатаў, артыкулаў і каментарыяў, дзе даў гістарычную, палеаграфічную і лінгвістычную апрацоўку старажытных помнікаў літоўска - беларускага заканадаўства. Самай галоўнай яго працай з'яўляецца „Skarbiec Dyplomatów papieskich, cesarskich, królewskich, książęcych uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów, posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów" t. I—II, Wilno, 1860—1863).

Гэтая яго праца была апублікавана 20 гадоў пасля смерці аўтара. Праца гэтая нават па сённяшні дзень мае вялікую вагу і вельмі важнае значэнне пры вывучэнні гісторыі Літвы, Беларусі і Украіны.

У 1843 годзе Даніловіч захварэў. Лячыўся ён на сілезскім курорце Грэнбэрг. Там жа ён і памёр 30 чэрвеня 1843 года.

**ВАСІЛЬ БЕЛАКАЗОВІЧ**

## Варта кантрактаваць

Амаль у кожнай вёсцы сяляне карыстаюцца кантрактацыяй. Кантрактуюць жывёлу, збожжа, цыбулю, лён і г. д. У Пяньках (Беластоцкі павет) многія гаспадары кантрактуюць насенне высакаякасных траў. Вось, напрыклад, Юльян Ваўранюк закантрактаваў 2 га балотнай віхліны. З яе атрымаў 600 кг насення. А за кілаграм насення дзяржава плоціць ад 6,70 да 10 зл. І так Юльян Ваўранюк атрымаў за насенне з травы каля 5-ці тысяч злотых. Апрача таго, з 2 га травы ён мае шмат корму для жывёлы. Столькі ж сама мае даходу з закантрактаванай травы Янка Азябла і іншыя гаспадары. На наступны год гаспадары Пянькоў разам з гаспадарамі Міхалова закантрактуюць травы — балотнай віхліны больш 20 га.

М. Х.

не прачытаць яго адразу, а спакойна лавіць рыбу... Ой, клюе!..

Маёр на момант зірнуў на Генрыха, працягваючы механічна наматваць лёску, і ў гэты час здаравенная фарэль тузанула яе і пайшла на дно. Штэнгель не пачуў, як вудзілішча выкаўзнулася ў яго з рук і паплыло па рэчцы.

Хто хоць раз сядзеў на беразе з вудкаю ў руках, чакаючы таго моманту, калі рыба клюне, той зразумее, чаму Штэнгель імкліва кінуўся да вады, не думаючы ні пра што, апрача здабычы, што ўцякла, і вудзілішча.

Калі б Штэнгель уважліва ўвайшоў ў ваду, магчыма нічога б і не здарылася. Але ён, спяшаючыся, проста скочыў ў горную рэчку і адразу захістаўся, пакаўзнуўшыся на аброслым мохам мокрым валуне. Ён хацеў збалансаваць, працягнуў руку, каб ухапіцца за іншы, крыху вышэйшы валун, што стырчаў з вады, ды, пахіснуўшыся, прамахнуўся, ударыўся аб камень галавою і ўпаў у рэчку. Хуткая плынь падхапіла непрытомнае цела і перакінула яго праз адзін камень, другі...

Генрык прабег берагам некалькі крокаў і, выбраўшы зручнае месца, кінуўся ў ваду насустрач целу Штэнгеля, што няслося на яго, быццам калода. Сам ледзь устаяўшы на нагах, ён падхапіў маёра пад пахі і, змагаючыся з плынню, пацягнуў яго да берага.

Штучнае дыханне прывяло сэрца ў нармальную дзейнасць, але не прывяло маёра да прытомнасці, і Генрых ужо хацеў ісці ў замак па дапамогу, як убачыў пакаёўку, што хутка збягала сцежкай ўніз, а за ёю Курта. Выяўляецца, дзяўчына з верхняй тэрасы парку, куды яна ўжо паспела зайсці, убачыла няшчасце і, клікнуўшы Курта, пабегла назад да рэчкі.

Утрох яны занеслі Штэнгеля ў пакой Генрыха. Маёр не прыходзіў да прытомнасці — не чуў, як яго раздзявалі, укладалі ў ложка, як аглядаў яго Мацціні, якога Генрых неадкладна выклікаў па тэлефону.

— Магчымае зрушэнне мозгаў! — сказаў Маціні і папярэдзіў: — Найменшы рух можа яму зараз пашкодзіць, і таму пра [illegible]е, каб перавезці пацярпеўшага ў шпіталь, няма чаго і гаварыць.

Апрытомнеў Штэнгель толькі праз гадзіну. Расплюшчыўшы вочы, ён здзіўленым позіркам акінуў пакой, яшчэ не разумеючы, дзе ён і што з ім здарылася, чаму каля ложка схіліліся Маціні і Гольдрынг. Потым на твары ў яго мільгануў цень трывогі.

— — Дзе мой мундзір? — спытаў ён занепакоена і спрабаваў падняцца.

— Ляжыце, ляжыце спакойна, — спыніў яго Маціні.

— Мундзір ваш сушыцца каля каміна, — супакоіў Генрых.

— А дакументы, дакументы дзе? — яшчэ больш нервуючыся, спытаў Штэнгель.

— Дакументы ляжаць каля вас на століку. Не турбуйцеся, ніхто іх не чапаў.

— Палажыце мне пад падушку! — ледзь варушачы ад слабасці языком сказаў Штэнгель і зноў страціў прытомнасць.

Генрых ахвотна выканаў просьбу маёра. Гэтыя дакументы ўжо яго не цікавілі. Па сутнасці сярод іх нічога асаблівага не было. Калі не лічыць нявіннай на першы погляд паперкі — копіі загаду, у якім маёру Штэнгелю выказвалася падзяка за распрацоўку новых захадаў па ахове ўжо гатовай прадукцыі — радыёапаратуры — падчас перавозкі яе за межы завода.

**(Працяг за тыдзень)**

# НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

### І Ў АРЭШКАВЕ...

Насельніцтва Гайнаўшчыны шмат дапамагае дзяржаве ў пракладванні дарог, будове святліц, вясковых крам і школ. Возьмем, напрыклад, Арэшкава. Сяляне гэтай вёскі некалькі год таму назад пабудавалі святліцу. У мінулым годзе грамадскім чынам распачалі будову вясковай крамы, якая ўжо аддана ў агульнае карыстанне.

Сёлета жыхары Арэшкава ўклалі таксама нямала працы пры пабудове школы - помніка 1000 - годдзя польскай дзяржавы. Яны даставілі камень на фундамент, жвір, звезлі цэглу.

### ДЫРЭКТАРСКАЯ ПЕНСІЯ

Вялікія Пасечнікі — гэта малая вёска. Жыве там 40 гаспадароў. У Гайнаўскім павеце славіцца яна малочнасцю кароў. А кароў ёсць там шмат. Кожны гаспадар не трымае менш як тры каровы, а некаторыя нават па сем. І гэта вельмі аплачваецца. Кожны месяц за малако, прадаване дзяржаве, сяляне атрымоўваюць па тры тысячы злотых і больш.

— За малако штомесяц маем дырэктарскую пенсію, — жартоўна заяўляюць жыхары Вялікіх Пасечнікаў.

У чым таямніца вялікіх надояў малака ў гэтай вёсцы?

Там гаспадары добра даглядаюць свае сенажаці і таму многа маюць высакаякаснага сена. Апрача таго, сеюць кукурузу і сіласуюць яе. У гэтым годзе кукурузай засеяна больш як тры гектары зямлі. У вёсцы існуе адзінаццаць сіласных ям. А сілас — гэта добры корм для жывёлы.

### ПТУШКАГАДОЎЛЯ

Курэй гадуе ў нас кожны гаспадар. Але гадуе іх нямнога. Адны па дзесяць штук, другія па дваццаць, а ўжо 30 штук курэй мала хто мае на вёсцы. А ў Вітаве Эмілія і Пётр Іванюкі гадуюць штогод па некалькі сотцен штук курэй. Сапраўдная курыная ферма ў Іванюкоў. І яна дае вялікія даходы.

### ЗА ВАДУ ПЛАЦЯЦЬ

Ёсць у Гайнаўцы вуліца, якая завецца Бочна. І на той Бочнай вуліцы няма адкуль браць ваду. Няма таксама калодзежа. Для здаровых людзей гэта справа хаця не выгадная, але вырашальная. Можна ўзяць вядро і прынесці ваду з іншай вуліцы. Але што рабіць інвалідам або тым людзям, якія страцілі зрок? А на Бочнай вуліцы ў Гайнаўцы жывуць такія. Вось, напрыклад, сям'я Мойжэшаў. Антон Мойжэш ходзіць на кулях, а ў яго жонкі адна нага на пратэзе. Ім ужо самім ніяк не прынесці вядра вады. А вады трэба шмат, бо там аж трое малых дзяцей.

Яшчэ горшае становішча ў Станіслава Літвіна. Сам ён страціў зрок, без апекі не можа нікуды хадзіць. Яго жонка інвалід. Ходзіць яна на кулях. А дзяцей таксама трое. І ўсе маленькія.

І гэтая сям'я змушана нанімаць чалавека, каб насіў ім ваду. За гэта плаціць у месяц па 200 зл.

А што на гэта камунальная гаспадарка прэзідыума гарадской рады нарадовай? Нічога, маўчыць. Маўчыць ужо два гады, нягледзячы на тое, што шмат ёсць там заяў і просьб. Год назад былі нейкія зрухі. Камунальная гаспадарка прывезла цэмбравіны, а пасля выкапала калодзеж. Але рабілі там відавочна бракаробы. Вынік гэтай працы такі, што ў калодзежы няма вады. Выкарыстоўваецца ён як сметнік. Калі пабачыш той калодзеж і пагаворыш з людзьмі з Бочнай вуліцы, дык дзіву даешся, што Гайнаўская гарадская рада такая бязрадная.

мх.

## ШУКАЮ ПРАЦЫ

(Працяг са стар. 1)

мі жаночай працоўнай сілы. Хутка ўзрастаюць тэмпы развіцця эканомікі, прадукцыйныя заданні, а дырэктары ад пару год чуюць нязменнае: «Мужчын хочаце? Не, не маем».

Як не кажы, але мужчыны — гэта ўсяго палавіна дарослага насельніцтва.

### БЕСПРАЦОЎ'Е

Беспрацоў'е, якое мае месца ў нас, — гэта беспрацоў'е жанчын. Нават, як бачым, толькі жанчын. Так званыя, інтэрвенцыйныя фонды, заданнем якіх з'яўляецца стварэнне магчымасцей сезоннага заробку для шукаючых працы, выкарыстоўваюцца амаль выключна для жанчын (пасадкі зеляніны, ачыстка гарадоў). Мужчыны не лічацца — іх усюды і заўсёды мала. Некаторыя не працуюць? Што ж, відаць, чакаюць «лепшай» працы — прапанаваныя месцы не падабаюцца. Але ўсё менш і менш такіх. Калі ў месяцы жніўні 1961 года ў пасрэдніцтвах зарэгістравана 318 мужчын на 1.785 незанятых месц працы, дык цяпер... удвая менш.

Лікі шукаючых працы жанчын змяншаюцца надта павольна. Год таму назад налічвалася іх 1.255. Пераважна некваліфіакваныя. Без ніякай спецыяльнасці, прафесіі.

Жанчына вандруе ў пошуках пастаяннага заробку. Не толькі таму, што на Беласточчыне найвышэйшы ў краіне працэнт знаходзіцца іх у прамысловасці, на будоўлях.

Заробкавыя выезды цяжка ілюстраваць канкрэтнымі лікавымі данымі з-за адсутнасці адпаведнай статыстыкі. Некаторае ўяўленне ствараюць аднак зводкі эвідэнцыі насельніцтва. Напрыклад, за першае паўгоддзе з Бельшчыны і Гайнаўшчыны выехала жанчын на 168 больш, чым прыехала (вярнулася) на тэрыторыю гэтых паветаў. Мужчын затое выбыла 70 асоб — на 60 працэнтаў менш. Са слаба развітай і адсталай Сакольшчыны выехала ў той час на 46 жанчын больш, чым прыбыла, а мужчын — усяго на 21 асобу.

Пытанне забеспячэння жанчыне працы набывае асаблівай вастрыні і... першараднага значэння для народнай гаспадаркі. Яе рост і размах у штораз большай ступені залежны ад размераў увядзення ў вытворчы працэс жанчыны нароўні з мужчынам. Жанчына — хатняя гаспадыня і жонка — становіцца жанчынай — работніцай. Будзе работніцай. Ёсць работніцай.

### ШУКАЮЦЬ ТАГО, ЧАГО НЕ ЗГУБІЛІ

Запісваю: на дзень 31.VIII. г.г. на Гайнаўшчыне засталося шукаючых працы — 41 жанчына на 31 вольнае месца працы і 7 мужчын на 17 вольных месц. Кандыдатак да разумовай працы — 4 на 9 вольных месц і 1 мужчына на 2 вольныя месцы.

— Гэта даныя з усяго павету? — упэўніваюся.

— Так.

Пераглядаю картатэку. Бланк за бланкам.

— Бачу, многія маглі б працаваць у аколіцы месца пражывання, — кажу.

— Маглі б, ды не хочуць. Кожны імкнецца ў Гайнаўку.

Вось адна з прычын, што людзі шукаюць таго, чаго не згубілі. Ёсць праца, але... каб у горадзе.

Марыя Б., маладая, здаровая жанчына, амаль штодзень прыходзіць да мясцовага пасрэдніцтва. Ад 1961 г. паспела змяніць ужо 11 месц, 6 разоў адмовілася прыняць прапанаваную ёй працу... Уладзімір А. з Новаберазова мае шмат зямлі. Пры тым прызарабіць не пашкодзіць. Ясна. Дамагаецца абавязкова пасады вартаўніка. Выгадна, бо адзін дзень працуеш, другі маеш вольны. Тады можна паехаць на гаспадарку — араць, сеяць, жаць. Кажуць, паставіў сабе дом у Гайнаўцы... Перабраў ужо аж 5 работ.

Васемнаццацігадовая Яня Т. захацела быць прыбіральшчыцай у шпіталі.

— Бойся Бога, дзяўчына, — насварыліся на яе. — Хай старыя бабы гэта робяць. Ты ж павінна зарабляць больш.

Яня ўпіраецца. Лепш атрымоўваць менш грошай, але затое пыл лёгка сціраць. У пяціасабовай яе сям'і працуе пакуль што адзін бацька.

Такія людзі моцна перашкаджаюць у дзейнасці пасрэдніцтваў. Бо і падумайце. Накіруюць яе (яго) на працу — на завод ці прадпрыемства. Пойдзе, а як жа. Панудзіць там тыдзень, месяц і вяртаецца назад да... пасрэдніцтва.

— Ці не маеце, моў, чаго лепшага на прыкмеце. Разумееце, каб мала рабіць ды многа зарабляць...

Таму некаторыя кіраўнікі прадпрыемстваў прабуюць арганізоўваць набор патрэбнай рабочай сілы праз сваіх знаёмых, таварышаў.

### ЗІМА — КОНТРА ЛЕТА

Калі зарэгістраваная асоба на працягу трох месяцаў не паяўляецца ў пасрэдніцтве, дык яна скрэсліваецца з картатэкі шукаючых працы. У Гайнаўскім пасрэдніцтве працы ёсць спісак каля 200 такіх асоб, у тым ліку каля 120 жанчын, якія ў гэтым годзе зарэгістраваліся яшчэ на зыходзе зімы і... ад 4—5 месяцаў наогул не заходзяць больш у бюро, нягледзячы нават на высыланыя да іх пісьмы і прапановы. Большая палавіна гэтых асоб пастаянна пражывае ў вёсцы. Мо' выехалі недзе? Магчыма.

Затое глыбокай восенню, зімою амаль усе яны зноў прыдуць да пасрэдніцтва. Непатрэбна слаць пісьмы. Працаваць хочуць!

І так штогод. У асенне - зімовы перыяд, калі спыняецца шмат сезонных прац, наглядаюцца значныя лішкі працоўнай сілы.

Блуднае кола паўтараецца. Вясною, летам, ранняй восенню патрэбны працаўнікі ў будаўніцтве, гандлю, сельскай гаспадарцы.

Зімою менш будуюць, меліяруюць. Менш гандлююць — грыбы, ягады вызбіраны; сліўкі, грушы, трускалкі, бульба, капуста закуплены. Змяншаецца лік месц працы.

Гаспадар пажаў, памалаціў, навазіў дроў.

— Паязджай дачушка (сынок) куды - небудзь на работу. Прыдасца ў хаце пару злотых. Толькі вярніся на весну!..

* ※ *

У Гайнаўцы, Бельску, Сямяцічах, Саколцы, Дуброве пасрэднікі разводзяць рукамі.

— Можа ў Новую Гуту, Катовіцы, Плоцк, Замбраў? Праезд дармовы, — хутка дадаюць. — На заробкі наракаць не будзеце...

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ

## Размовы аб справах вёскі

Часамі «Лявоніха» завітае ў Трасцянку. Выступае тады ў хаціне, якая, мабыць, «памятае» яшчэ паншчыну. Прыязджаў нават беларускі хор з Беластока. Моцныя сцены, вытрымалі і гэту навалу, хаця з драўлянымі цвікамі...

— Шосты год будуем святліцу, — стыдліва прызнаюцца. — Разлічвалі на дапамогу землякоў, што жывуць у Беластоку, ды адрасоў іх бацькі не далі...

Стаіць фундамент, ляжаць бетонныя пустакі, чарапіца, вапна, жвір. Усё зроблена грамадскім чынам. Дакуплена шмат іншых матэрыялаў — бэлек, сталяркі, цэглы.

— Каб да зімы сцены паставіць, — уздыхаюць і не верацъ сваім словам. З жалем паглядаюць на 5 тон цэменту, закупленага гайнаўскай павятовай пажарнай камендатурай. Змарнуецца, скамянее.

Усё ж іскрыцца надзея, што камендант пажарнікаў тав. Пелчынскі апрача цэменту, сыпне і грашыма, бо будучая святліца перахрышчана на рамізу. Ласінка, Палічная выкарысталі такія хрэсьбіны — хапнулі некалькі соцен тысяч злотых на заканчэнне сваіх амаль дзесяцігадовых будоваў святліц.. Прабачце — раміз!

Іван Тапалянскі, кіраўнік мясцовай школы, не ў настроі. Не, не таму, што ў новым будынку можа недзе працякае. Аднаўлены нядаўна, памаляваны — за цэлых 28 тыс. зл. Затое цесны — вельмі цесны. Вучняў штогод не менш 170 асоб, класных памяшканняў — 5, настаўнікаў — 5. А лік вучняў, прыпадаючы на аднаго настаўніка, не павінен быць большы 30-ці (хлопцаў і дзяўчынак).

Патрэбны адзін настаўнік і прынамсі адно памяшканне, не ўспамінаючы ўжо аб фізічным і біялагічным кабінетах, фізкультурнай залі, што неабходна ў правядзенні рэформы навучання. Прытым у Трасцянцы існуе сельскагаспадарчая школа. Існуе і развіваецца.

— Дзе знайсці на ўсё гэта месца? У школьным будынку ліквідаваць настаўніцкую кватэру?

Іменна! — уцешыліся ўлады. Узамен пабудуем жыллёвы асабняк... з дрэва той стогадовай хаціны — у 1964 г.

І загадалі:

— Трэба прыняць старшакласнікаў з Анцутаўскай «аднаізбоўкі».

Вось табе, дагаварыліся...

Вечарамі Трасцяніца, як завуць сваю вёску яе жыхары, зззяе гірляндамі электрычных лямпачак.

— Мелі дваццаць пунктаў вулічнага асвятлення, цяпер дабавілі мы яшчэ 20, — пахваліліся. — Укладзем ходнік, магчыма, паробім клумбы. Тратуар, як у горадзе будзе.

А Ласінцы не ў галаве камфорт. Ледзь вуліцу пабрукавалі. Электрычнага святла чакае. У канцы лета электрыфікацыйныя работы пачаліся. Гаспадары грамадскім чынам развозяць слупы, капаюць ямы. Так, грамадскім чынам! Не памыляюся.

Памятаю, у мінулым годзе фундамент пад самаабслуговую краму пабудавалі таксама грамадскім чынам, але... працаўнікі гайнаўскага ПЗГС-у! Зрэшты, давайце забудзем былое. Крама, як цацка, ужо стаіць, навенькая..,

— Сёлета кошты работ грамадскім чынам перавыкананы амаль удвая ў параўнанні з планаванымі 45 тыс. зл. Во!

Хвалім Ласінку, ды не выпадае зноў сварыцца на Трасцянку, якая грамадскім чынам выканала работ вартасцю ў 75 тысяч злотых на планаваныя 400 тыс. зл. (чатырыста!) Для лепшага гумару расказалі гісторыю двух гаспадароў з Крыўца, якія пабіліся за тое, хто першы будзе малаціць агрэгатам. Спрэчку вырашыла міліцыя.

— З акцыяй закупкі збожжа, пэўна, няма цяжкасцей? — здагадліва пытаю.

— Думаеце, на закупачным пункце таксама б'юцца, хто будзе першым прадаваць збожжа? — адказваюць мне з усмешкай.

Слаба праходзіць закупка збожжа. Усюды тлумачаць адно: моў, неспрыяльная пагода, а работа ў полі не чакае. Жніво зацягнулася, ураджай не надзвычайны, а тут і капанне бульбы ў разгары.

Дрэнная пагода не толькі на Гайнаўшчыне. Усё ж, многія паветы, не гаворачы ўжо аб асобных вёсках, ужо даўно рэалізавалі намечаныя закупкі збожжа.

* ※ *

Дзіўныя блізнюкі Ласінка з Трасцянкаю. Хаця б і ў справах падаткаў. Трасцянка перавыканала на 8% план даходаў, а Ласінцы якраз нехапае гэтых васьмі працэнтаў. Трасцянка выканала план зборкі грошай на будову школ і Ласінка гэтак жа, шчыра кажучы, нат' крыху перавыканала назначаныя ёй сумы.

Услед за збудаванай агранамоўкай, крамай... электрыфікацыяй, святліцай Ласінцы абяцаюць і новую школу....

Аляксандр АНТАШЭВІЧ

 

*У беластоцкім падполлі*

# БЫ СКВОЗЬ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІЛІСЯ

На голлі дрэў паявілася першая веснавая зеляніна, але дзьмулі яшчэ халодныя вятры. Сымон Кузьмін паставіў каўнер і нецярпліва зірнуў на гадзіннік. Стаяў на чыгуначным мосце станцыі Беласток - Цэнтральны. Побач прайшоў элегантны мужчына, затрымаўся на хвіліну, паглядзеў у бок вакзала і па сходах зышоў уніз. «Відаць, таксама кагосьці чакае?»

Начны цягнік з Варшавы прыбыў пунктуальна. Сярод нешматлікіх пасажыраў Кузьмін лёгка пазнаў беларускага пасла Гаўрылюка.

— Ну, як?

— Усё добра.

Падышлі да коннай дарожкі.

— На Сандамерскую, калі ласка, — загадаў Сымон. Быў упэўнены — Мікалай Грыцук не адмовіць начлегу.

На вуліцы Сянкавіча заўважылі, што ўслед за імі едзе нейкая дарожка. «Нешта тут паліцыяй пахне, браток!»

Пераезд ваўкавыскай чыгункі якраз закрыты. Непадалёку засвістаў паравоз. Спыніліся. Гаўрылюк сунуў возчыку двухзлотавую манету, схапіліся з месц і пабеглі пад апушчанымі бар'ерамі на выгодскую старану. У той час другая дзіўная дарожка перайшла ў галоп.

Апынуліся на Васількоўскай вуліцы. Чулі за сабою паспешны грукат колаў вагонаў.

Крутнулі ў вуліцу Садовую.

— Гоняць! — Гаўрылюк цяжка дыхаў.

За паваротам убеглі ў глухі панадворак, прыталіліся ля высокай брамы. Шпікі пагопалі далей, было іх трох.

Цішыня, аж у вушах звоніць. Пот залівае вочы.

— Ідуць назад! — Кузьмін і Гаўрылюк мацней прыціснуліся да сырых дошак.

Зусім блізка чуваць ужо крокі і злосная лаянка.

Паволі моўкнуць галасы. Пайшлі. Сымон выглянуў на вуліцу. Пуста. Да Грыцука нельга паказвацца, даўно старога маюць на воку. Над ранам могуць правесці рэвізію. Што іншае — да Язэпа Грыгарчука на Капральскай вуліцы... Яго пакуль што ні ў чым не падазраюць.

Сымон рушыў першым, за ім Гаўрылюк. Грыгарчука разбудзілі, калі пачалі спяваць першыя пеўні.

— У чым справа? — Ёзік хутка апрытомнеў.

— Маеш месца на начлег? Заўтра ладзім мітынг беспрацоўных ля пасрэдніцтва працы пры Артылерыйскай вуліцы...

— Раздзявайцеся.

— Прыду ў восем гадзін раніцы, — гаварыў Гаўрылюк на развітанне Сымону, які збіраўся да выхаду.

* * *

Сымон Кузьмін спазніўся. Пасол Гаўрылюк ужо выступаў з прамовай перад мнагатысячным натоўпам беднякоў.

Раптам ззаду ўзняўся шум і крыкі. Сымон агляну́ўся і ўбачыў, як адусюль акружаюць паліцыянты, замахваюцца палкамі і прыкладамі вінтовак.

— Каменнямі па іх, хлопцы! — крычаў замурзаны маладзік.

— Найміты!

Бандыты!

Камендатура дзяржаўнай паліцыі заўсёды была на пагатове каля пасрэдніцтва працы — гэтым «гнайніку» на хворым целе горада. Таму Гаўрылюку прышлося выступаць нядоўга. Узмоцненыя патрулі хутка разагналі дэманструючых.

Гаўрылюк выйшаў на тратуар Ліповай вуліцы, перапыніў дарожку. Сеў.

Сымон Кузьмін і Язэп Грыгарчук накіраваліся дамоў. Ведалі — пасол чакае іх у сымонавай хаце пры Кашыковай 16.

Размова не зацягнулася доўга. Усюды, пэўна, шныраюць дэфензіўшчыкі.

— Асцеражней вядзіце сябе, таварышы, — Гаўрылюк усміхаўся; усё ж быў задаволены наладжаным мітынгам. — Рэжым узрастае, чуецца мацней на сілах. Тысячы адданых справе сяброў сядзіць у турмах, шырыцца правакацыя. У бліжэйшы час, несумненна, захочуць зліквідаваць нават і Таварыства Беларускай Школы, каб пазбавіць такім чынам і гэтай апошняй магчымасці легальнай дзейнасці...

Адвячоркам пасол Гаўрылюк уваходзіў у вагон цягніка, што адпраўляўся ў напрамку Вільні.

**Сакрат ЯНОВІЧ**

# АГРАНОМ ПРАПІЎ ЗБОЖЖА

— Што ж гэта выходзіць, браткі? У вёсцы аграном нас увёў у спісак да атрымання збожжа, а тут у ГС зусім няма нашых прозвішчаў, толькі другія ўпісаны.

Жыхары Войшкаў гудзелі на панадворку Бельскай ГС, як пчолы ў вуллі. Справа не благая. ГС раздзяляла паміж пасобнымі сялянамі высакаякаснае насеннае збожжа. У ГС за адзін цэнтнер такога збожжа селянін плоціць усяго толькі 283 злотых. Гэта ж танна, як боршч, зважыўшы, што цэнтнер такога ж жыта на рынку ў Бельску каштуе 450 зл. Каму ж тады не аплоціцца ў ГС купіць хоць некалькі цэнтнераў таннага жыта? Таму і ўсхваляванне Войшкаўскіх гаспадароў, якія не знайшлі сваіх прозвішчаў у спіску атрымоўваючых збожжа, зусім абгрунтаванае.

— Аграном, ты ж нас вызначыў на атрыманне збожжа. Чаму тады няма нас у спісках? — звярнуліся яны да агранома Аляксандра Наумюка. Аграном пацінсуў плячыма і тут жа пачаў некаторыя прозвішчы ўводзіць у спісак. Але ўсіх не ўпісаў. Збожжа не хапіла б у ГС. Таму некаторым, у пераважнай большасці Войшкаўскай бядоце, давялося паражняком вяртацца з Бельска. Яны патрацілі ўвесь дзень, а збожжа не атрымалі.

— Справа ясная, як сонца, — разважылі яны, вяртаючыся дамоў. — Агранома ўзялі ў свае ручкі багацеі. Яны і атрымалі збожжа. А нашае аграном прапіў разам з імі. Справа, як сцвярджаюць жыхары Войшкаў, выглядала так.

9 верасня, напярэдадні продажу ў ГС збожжа, аграном Наумюк прыехаў у Войшкі, каб паведаміць сялян, што збожжа ёсць. Спісак тых сялян, якія жадаюць атрымаць збожжа, быў зроблены аграномам некалькі дзён наперад. І вось аграном нейкім цудам аказаўся ў войшкаўскай краме, а пры ім некалькі дзядзькоў з тоўстымі кашалькамі. І хоць у войшкаўскай краме гарэлкі не прадаюць, але ж і віном можна напаіць прагнучага. Аграном нават і не заўважыў, як ў кутку крамы ўтварылася цэлая батарэя бутэлек ад выпітага віна. Не памятае таксама аграном, як і калі ўродзіў у спісак атрымліваючых збожжа новыя прозвішчы. Ну што ж, віно робіць сваё.

Такім чынам у спіску аказаліся такія гаспадары, як Даніла Рудэчка, Фёдар Васілеўскі, Мікола Антанюк і іншыя, у якіх свайго збожжа хоць адбаўляй. Яны і таргуюць ім штогод на рынку. Аграном, не гледзячы на гэта, прыпісаў ім па 5—6 цэнтнераў таннага збожжа. Ці яму шкада дзяржаўнага збожжа?

Што са спіска выкрэслены такія беднякі, як Сцяпан Ляшэўскі, Пятро Іванюк ці інвалід Аляксей Баўтручук, дык што? Хто ж з імі тут лічыцца?

Што некаторыя асобы з Войшкаў нават не давезлі да вёскі атрыманага на пасеў збожжа, толькі пачалі ім гандляваць па дарозе, гэта ўжо таксама не аграномава справа.

Але ў Войшках людзі неспакойныя. Яны не могуць праходзіць міма такой крыклівай несправядлівасці. У павятовую раду пачалі з Войшкаў сыпацца скаргі на агранома. У Войшкі выслалі камісію.

— Якія ж вынікі? — пытаем у старшыні ПЗКіР, члена камісіі.

— Аграном вінаваты, — кажа старшыня. — Справа яго кваліфікуецца пад дысцыплінарнае звальненне з працы. Мы яму даказалі, што нават у дзень атрымоўвання сялянамі збожжа ён піў з імі гарэлку. Некаторым пакрыўджаным з Войшкаў, як, напрыклад, Аляксею Баўтручуку, дадаткова прыдзялілі збожжа.

Але, на наш погляд, гэтая справа не закончана. Справа раздзелу кваліфікаванага збожжа на пасеў — гэта не абыякавая справа. Ад гэтага ж залежаць будучыя ўраджаі. І нельга дапусціць да таго, каб дабраякасным зернем, прызначаным на пасеў, гандлявалі. Ці ж не было б лепш, каб раздзелам збожжа заняліся сельскагаспадарчыя камісіі, якія існуюць пры грамадскіх радах? Нельга ж даручаць гэтай важнай справы толькі аднаму чалавеку — аграному. Прыклад з Войшкаў, мабыць, не выключны.

**В. Бондар**

**(Працяг са стар. 1)**

хоць паволі, але безупынна наперад. Мы самі зрэшты, — кажа, вінаваты, што вёска адсталая. Ніхто туды не ездзіў.» А цяпер з Саколкі ездзяць. Сам доктар Доха, душой і сэрцам адданы вясковым людзям, часта ездзіць, размаўляе. Быў і ў Бомблі. І там ужо зерне ўпала на добры грунт і дало плён у постаці... лазні. Людзі самі збудавалі. Нават пляц пад лазню адзін гаспадар даў бясплатна.

У Сакольскім павеце працуе 7 пунктаў аховы здароўя, 5 фельчарскіх пунктаў, 3 радзільныя дамы. Паводле залажэння Інстытуту гігіенізацыі вёскі, служба здароўя на вёсцы мае дамінуючае значэнне ў гігіенізацыі сваёй тэрыторыі. Вясковы лекар — не толькі лекар хворага цела, але таксама прыяцель здаровага. На гэтай базе развіваецца ўся дзейнасць над гігіенізацыяй вёскі на Сакольшчыне. Вясковыя лекары і ўсе вясковыя працаўнікі службы здароўя актыўна ў яе ўключыліся.

**ДЛЯ ПРЫКЛАДУ.**

Крушыняны. Па ініцыятыве мясцовага лекара грам. Стахулі была пачата будова грамадскім чынам дарогі ад вёскі да шашы. Як расказваюць, увосень і вясною немагчыма было сюды даехаць. Два разы пажарная каманда з Саколкі і адзін раз карэтка хуткай дапамогі не маглі даехаць у вёску. Лекар арганізаваў таксама святліцу ў будынку старой школы. Крушыняне самі адрамантавалі будынак, пабялілі, зрабілі акяніцы. «Хачу арганізаваць у нашай святліцы, — кажа лекар, — першую ў павеце вясковую кавярню. Заданнем яе будзе, між іншым, адцягваць моладзь ад гарэлкі. Буду ў ёй праводзіць гутаркі аб асабістай гігіене, гігіене жылля і асяроддзя. Для дзяўчат — школа маці. Вялікі ў нас клопат — брак добрай вады. Нам вельмі патрэбны артэзіянскі калодзеж. Я асабіста абышоў усіх гаспадароў, у выніку чаго згадзіліся сабраць 67 тысяч зл. на будову такога калодзежа.»

Да ўсяго вышэй сказанага варта дадаць яшчэ, што лекар з Крушынян працуе з моладдзю ў драмгуртку. Арганізуе пастаноўкі п'ес.

**Маева.** Мясцовы лекар інфармуе: вуліцу мы ўжо выбрукавалі. Ідуць працы за вёскай.

**Шудзялава.** Тут лекар наглядае за пракладкай тратуара ў вёсцы. Клапоціцца штодзень аб гэтай справе. Лічыць сваім абавязкам рабіць так. Для дабра вёскі.

**Вярхлессе.** Лекар Яўгеній Стэмпень гаворыць: «Закаранелых п'яніц у нас няма, але людзі п'юць многа, замнога. Планую арганізаваць спартыўны клуб, увесці зімою светліцовыя заняткі, каб такім чынам адцягнуць моладзь ад чаркі. У нас добра ўкладаецца праца з настаўнікамі». І яшчэ. Лекар з'яўляецца ініцыятарам будовы святліцы, бо ў зале пры рамізе няма адпаведных умоў для гэтага. Там зараз адбываюцца толькі забавы.

Як бачым, дзейнасць над гігіенізацыяй вёскі вельмі разнастайная. І правільна. І будова новай дарогі, і тратуар, і спорт, і святліца, як і артэзіянскі калодзеж, лазня ці гутаркі аб гігіене — усё павышае ўзровень жыцця вёскі, усё служыць дабру чалавека.

Нельга сказаць, каб і ў іншых паветах не знайшліся вясковыя лекары, дбаючыя пра вёску. Але сакольская піянерская арганізаваная акцыя поўнасцю заслугоўвае таго, каб з яе бралі прыклад.

# САКОЛЬСКАЯ ЛЯГЕНДА

*

Пахнуць вяргіні ў гародзе др Дохі. Многа вяргінь — розных гатункаў і самых замыславатых колераў. Цудоўная мазаіка! Па гэтым вялікім кветкавым гародзе лёгка знайсці стары домік, у якім жыве доктар.

Доктар Доха ўзначальвае павятовы камітэт гігіенізацыі вёскі ў Саколцы. Быў яго ініцыятарам і творцам. Ён бескампрамісны антыалкаголік і вялікі прыяцель чалавека. Нехта сказаў, што «Доха — гэта цэлая легенда», бо на сваіх плячах валок з-пад гасподы п'яніцу да сваёй хаты, бо ўласнымі грашыма плаціў за дарагія ўколы для хворай на рака жанчыны, каб толькі палёгчыць яе апошнія гадзіны, бо памагае жонкам п'яніц, бо выхоўвае бяздомнае дзіця.

«Вялікі спалэчнік» — акрэсленне, якое моцна прыліпла да доктара ў Саколцы. Яго ведаюць усюды, ва ўсіх установах, бо ён шукае прыяцеляў ідэі свайго жыцця: паляпшэнню гігіенічных умоў вёскі. Бо такая ідэя свяціла доктару заўсёды. Перад вайной, закончыўшы адукацыю ў Варшаве, вяртаецца ў родную вёску пад Гродна, каб тут працаваць. За свае заробленыя грошы будуе амбулаторыю ў той жа вёсцы, дзе можа ў зносных умовах лячыць хворых. Арганізуе таксама аптэку. Ад 1943 года — член партызанскага аддзела імя Варашылава. Дзейнічае ў брыгадзе Аляксандра Неўскага.

*

Сонечная асенняя раніца заглядае ў акно пакоя ў сакольскай амбулаторыі. Пачынаецца звычайны дзень, напоўнены пахам дзесяткаў лякарстваў. Дзень працы людзей у белі. Бадзёрым крокам уваходзіць і доктар Доха. Вітаецца. «У маіх паперах здаўна захоўваю адзін прыгожы вершык,» — выцягвае з унутранай кішэні. Слухаю.

Бярыце ў рукі вы
паходню
Ідзіце ўночы
рассвятляць.
Чаго не возьмеце
сягоння,
Таго і заўтра вам
не ўзяць.

Гэта значыць, што нельга чакаць, нельга адкладаць. Ці ж бы жыццёвы дэвіз, выражаны ў зваротцы невядомага аўтара? Усё жыццё доктара Дохі адказвае — так!

Такая яна сакольская легенда. Новая. Аптымістычная. Паданая ў вялікім скарачэнні.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**



 

# ЦЫРК У ВОБЛАКАХ



Па Злучаных Штатах вандруе пара акрабатаў без цыркавога шатра і арэны.

Галоўным рэквізітам з'яўляецца верталёт, а акрабатыка выконваецца на вышыні 300 м. Друк піша, што гэтыя выступленні робяць жудаснае ўражанне.

# ЕВА БУДЗЕ ГАВАРЫЦЬ!

Маленькая двухгадовая Ева спакойна глядзіць то на маму, то зноў на незнаёмую цётку ў белым халаце. Дзіця зручна сядзіць на высокім крэслііцы побач з круглым столікам. Вядома, яно не разумее і не ўсведамляе значэння абследавання, якому падвяргаецца. А маці? Маладая жанчына з цяжкасцю скрывае сваё хваляванне. Яе дачушка не вымавіла яшчэ ў сваім жыцці ніводнага слова. Няўжо Ева застанецца інвалідам?

Дзяўчынка ўсміхаецца: на століку перад ёю паявілася добра вядомая ёй цацка — на палачку пасаджаны рознакаляровыя драўляныя кольцы. Раптам раздаюцца рытмічныя гукі цымбал. Пасля кожнага гуку мама дапамагае дачушцы зняць з палачкі кольца. Так паўтараецца неаднаразова. Дзяўчынка пачынае спалучаць гукі цымбал з рухам. Сама ўжо цярпліва чакае гукавога сігналу для далейшай гульні. Першая праверка прайшла паспяхова: дзіця чуе...

З году ў год польская фоніятрыя прымяняе ўсё больш паспяховыя і сучасныя метады лячэння. Прафесар фоніятрычнага аддзялення клінікі оталярынгалогіі Медыцынскай акадэміі ў Варшаве Аляксандра Мітрыновіч-Маджэеўская распрацавала метад замены функцый пашкоджаных органаў слыху і голасу... работай іншых органаў. Тут, у клініцы, малыя і вялікія вучацца гаварыць.

Адным з апошніх дасягненняў польскай навукі ў гэтай галіне з'яўляецца распрацаваны прафесарам Мітрыновіч-Маджэеўскай новы метад дыягностыкі пры дапамозе рэнтгенакінематаграфіі. Злучэнне кінакамеры з рэнтгенаўскім апаратам дазваляе зазняць усе рухі асобных органаў арганізма чалавека. Імена гэты метад дазваляе рэгістраваць на кінаплёнцы рухі гартані і галасавых звязак. Дакладнае вывучэнне гэтых рухаў аблягчае пастаноўку правільнага дыягназу і, значыць, правільнае і хуткае лячэнне.

# АМДУРМАН

**Горад Судан складаецца з трох частак (гарадоў): Хартума, Паўночнага Хартума і Амдурмана. Хартум-горад напалову сучасны, Паўночны Хартум — поўнасцю сучасны. А Амдурман? Амдурман гэта асаблівы гора. Калісь быў сталіцай дзяржавы. Сёння страціў гэтую функцыю, але захаваў непарушны суданска-арабскі характар, захаваў таксама жывучасць вялікага цэнтра. У цэлай Афрыцы слыве амдурманскі рынак. Калісьці быў ён галоўным месцам гандлю нявольнікамі. Сёння можна там знайсці ўсе тавары, якія вырабляюцца ў Еўропе і Амерыцы. Аднак спецыяльнасць рынка — гандаль вярблюдамі.**

**На здымку: амдурманскія гандляры вярблюдамі.**



# ТАЯМНІЦЫ МОРКВЫ

...Капуста, бульба, памідоры, баклажаны, бручка, рэдзька, салата, шчаўе, рэвень, кроп... Напэўна, няма такой сям'і, дзе б не любілі гародніну. Але сёння размова толькі пра моркву. Чалавек, які нармальна харчуецца, павінен штодзённа есці 600 грамаў гародніны, прычым частку з яе ён ужывае ў сырым выглядзе.

Чым жа карысна чырвоная морква? Як і ў іншай гародніне, у ёй шмат кальцыю. Калі параўнаць яе, скажам, з бульбай, то ў моркве гэтага рэчыва ў сем разоў болей.

Кальцый — будаўнічы матэрыял. Ён неабходны кожнаму, хто расце — у першую чаргу дзецям. Кальцый умацоўвае касцявую сістэму арганізма. Але, бадай, самая вялікая каштоўнасць морквы не ў гэтым. Гародніна, як вядома, з'яўляецца крыніцай каратыну, рэчыва, з якога ў арганізме ўтвараецца вітамін «А». Гэтым рэчывам і багата морква.

Вітамін «А» папярэджвае такую хваробу, як курыная слепата, дапамагае захоўваць здаровай скуру, павялічвае ахоўныя сілы слізістай абалонкі ў барацьбе з мікраарганізмамі. Вучоныя пацвярджаюць, што каратын адыгрывае важную ролю ў папярэджанні атэрасклерозу — хваробы звязанай з адкладаннем тлушчу (ліпоідаў) у сценкі краваносных сасудаў.

Асабліва багата каратынам гародніна, афарбаваная ў аранжавыя і жоўтыя колеры: морква, таматы, чырвоны перац. Дастаткова сказаць, што 40 грамаў чырвонай морквы або 150 грамаў памідораў могуць задаволіць сучасную патрэбу арганізма ў каратыне.

Зразумела, задаволіць арганізм вітамінамі адной морквай немагчыма. Ежа павінна быць разнастайнай.

Некалькі слоў аб прыгатаванні морквы. З яе можна зрабіць мноства страў. Трэба толькі не забываць пра адну важную акалічнасць. Каратын, якім так багата морква, не растварaецца ў вадзе. Каб вітамін «А» паступіў у арганізм, моркву рэкамендуюць варыць на булёнах з дадаваннем тлушчу. Пры гэтым нельга моцна пераварваць яе, бо пры вельмі высокай тэмпературы карэтын выпараецца.

Не забывайце пра моркву. Ужывайце яе ў ежу як мага больш.

## Сельская гаспадарка без таямніц

# СІЛАСЫ (5)

Сілас гатовы. Але ці ён добры? Гэта можна праверыць. Калі сілас мае аліўкава - зялёны колер, вінны запах і добра захавалася структура матэрыялу, з якога быў зроблены, смела можна скармліваць. Характэрныя рысы дрэннага сіласу: карычневы колер, запах воцату або гнілізны, адсутнасць структуры. У такім выпадку трэба быць асцярожным. Лепей выслаць пробу для праверкі ў сельскагаспадарча - хімічную лабараторыю (Stacja chemiczno - rolnicza, Białystok, ul. Ogrodowa 10).

Гр. Казбярук з вёскі Румейкі, Беластоцкага павета, мае ўжо вялікі вопыт у сіласаванні. Штогод ён сіласуе каля 12 тон зялёнай масы. Дзякуючы гэтаму, жывёла ў яго круглы год мае добры корм, і гаспадар здае ў млечарню да 15.000 літраў малака ў год.

Такіх гаспадароў, як Казбярук, ёсць ужо нямала ў нашым ваяводстве. Варта, каб і іншыя пазнаёміліся з асноўнымі правіламі выкарыстання сіласу на корм. Робіцца гэта так: адчыняем яму з аднаго боку, сілас рэжацца зверху ўніз пластамі велічынёй, патрэбнай для данай гаспадаркі. Але трэба памятаць, што бяром столькі сіласу, колькі трэба на адзін дзень. Карыта павінна быць кожны дзень вычышчана ад рэштак ежы, якая псуецца і можа прывесці да захворвання страўніка.

Зімой трэба ведаць яшчэ адно правіла. Замёрзшы сілас павінен пастаяць у цёплым памяшканні. Ні ў якім выпадку нельга карміць халодным кормам, бо гэта таксама вядзе да сур'ёзных захворванняў жывёлы.

Порцыі сіласа: для жывёлы ад 10 да 30 кг, для авечак — 1—2 кг, свінням — засіласаваную бульбу ў залежнасці ад узросту, для птушкі — каля 800 грамаў бульбы, засіласаванай з зялёнай люцэрнай, крапівой, сэрадэляй і г. д. Найважнейшае — гэта кармленне рагатай жывёлы. Сяляне Беласточчыны скармліваюць ад 15 да 25 кг сіласу.

Трэба памятаць яшчэ аб адным. Цельныя каровы ў залежнасці ад ступені цяжарнасці атрымліваюць меншыя порцыі. У дзяржаўнай гаспадарцы ў Элку, якая спецыялізуецца ў жывёлагадоўлі і з'яўляецца адной з лепшых у краіне, пад канец цяжарнасці карове даецца да 5 кг сіласу, а каровам чырвонай дацкай пароды наогул не даюць гэтага корму. Гэта парода жывёлы вельмі чуллівая на сіласаваны корм, асабліва перад ацяленнем.

Апошняя заўвага: не забывайце аб кармавой крэйдзе. Яна вельмі патрэбна для ўрэгулявання кіслотнасці. Дадайце 1—2 г крэйды на кожны кілаграм сіласу.

*

У гэтым цыкле артыкулаў разглядаліся асноўныя пытанні, звязаныя з сіласаваннем кармоў. Цяпер працягваецца сезон закладання сіласаў. Выкарыстайце лісце з буракоў, атаву, зялёную масу кукурузы, сланечніка і іншых раслін, нават пустазелле.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

Толькі для закаханых




**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

**Мне 17 год. Працую я на гаспадарцы разам з бацькамі. Сястра мая ўжо замужняя, брат таксама жанаты. Я цяпер жыву толькі з бацькамі.**

**І вось які я маю клопат.**

**Ужо год хаджу я з Алёшам з нашай вёскі (ён адзінак). Нябрыдкі ён хлапец і ўсе дзяўчаты хацелі б з ім дружыць, але яму найбольш падабаюся я. Праўда, кахаю я Алёшу. Бацькі мае вельмі яго любяць, бо гэта ж адзінак і мае гаспадарку. Бацькі не даюць мне з іншымі хлопцамі знаёміцца, у іх толькі адзін Алёша ды і ўсё. Але мяне непакоіць адно: не падабаецца мне Алёшаў характар. Вось прыклад. Нядаўна быў у нас фэст і гучная забава, на якой было вельмі многа моладзі з чужых вёсак. У мяне ў гасцях быў адзін хлапец і я з ім пайшла на забаву. Калі з ім танцавала, падыйшоў Алёша, адабраў мяне і стукнуў некалькі разоў мяне ў плечы. Мне было вельмі сорамна і боль таксама адчула. Ён не дазваляе мне гаварыць і танцаваць з іншымі хлопцамі, але сам патрапіць пайсці да другой. Парай, Сэрцайка, што рабіць? Кінуць не магу, бо я яго кахаю і людзі будуць смяяцца, што ён пакінуў мяне. Чакаю парады.**

**Ніна**
**з Сакольскага павету**

**Дарагая НІНАЧКА!**

**Сумпас тваё каханне. Закахалася Ты ў хлопца, які напэўна не будзе табе добрым мужам (калі б ён ажаніўся з табою). Падумай толькі: ён яшчэ толькі твой нарачоны, а ўжо б'е цябе ды яшчэ і пры людзях. А што будзе, калі ён будзе тваім мужам? Ён тады будзе пры кожнай нагодзе біць цябе. А чаго ж варты чалавек, які падносіць руку на чалавека, ды яшчэ на сваю жонку? Не, Ніначка. Ты павінна абавязкова пакінуць яго. Ты маеш толькі 17 год! Ты яшчэ знойдзеш хлапца і закахаешся. Нашто вязацца на цэлае жыццё з чалавекам, калі ведаеш, што не будзе з яго добрага мужа, што жыццё з ім будзе цяжкім. Падумай над гэтым. І абавязкова прачытай гэта тваім бацькам, яны ж пражылі ўжо цэлае жыццё і павінны гэта добра разумець. А па-другое, табе ж яшчэ рана замуж, дык ці не лепш маладой дзяўчыне пагуляць, не задавацца з хлопцамі на сур'ёзна? Дзявочыя гады — гэта ж самыя цудоўныя, бестурботныя гады ў жыцці жанчыны.**

**СЭРЦАЙКА**

**Марыся з Бельскага павету. На жаль не можам гэтага друкаваць у газеце. Пастараемся хутка даць адказ пісьмова. Толькі прышлі як найхутчэй свой дакладны адрас.**

**Сэрцайка**

# Трыбуна чытачоў

З ЖЫЦЦЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ

## У лэмкаў

Лэмкі жывуць у асноўным у паўднёвых паветах жэшоўскага ваяводства на т. зв. Лэмкаўшчыне. Гэтая цікавая рэгіянальная група займае ў працы Украінскага таварыства асабліва месца. Пры ГП УГКТ існуе лэмкаўская секцыя, якая спецыяльна займаецца культурным развіццём гэтай групы.

Між іншым дзейнічае тут вядомы ва ўсім ваяводстве лэмкаўскі самадзейны калектыў песні і танца з Бялянкі, які на ваяводскіх элімінацыях ў гэтым годзе заняў другое месца. Выступаў ён ужо некалькі раз на антэне Польскага радыё, а таксама на розных урачыстасцях у Жэшове і іншых гарадах ваяводства.

Лэмкаўская секцыя цесна супрацоўнічае з музеямі (Кракаў, Санок), у якіх збіраюцца экспанаты лэмкаўскай матэрыяльнай культуры, а таксама робіць намаганні адкрыць у адной з не дзейнічаючых царквей на Лэмкаўшчыне рэгіянальны музей. Сярод вясковага насельніцтва секцыя праводзіць даклады на актуальныя тэмы і мабілізуе насельніцтва да грамадскай працы.

Між іншым, дзякуючы лэмкаўскім актывістам грамадскім чынам адрамантавана прыгожая святліца ў Бялянцы і супольна са ЗБОВіД-ам створаны камітэт пабудовы помніка партызанам жэшоўскай зямлі.

У апошні час запланавана падрыхтаваць зборнік лэмкаўскіх песень. У «Нашым слове» — органе ГП УГКТ — лэмкі маюць спецыяльную старонку «Лэмкаўскае слова», якая друкуецца на лэмкаўскім дыялекце.

Лэмкі, з'яўляючыся ўкраінцамі, захоўваюць свае рэгіянальныя асаблівасці, якія іх збліжаюць і ствараюць трывалы «мясцовы патрыятызм». Вось нядаўна лэмкі, якія даўно эмігравалі з Польшчы ў Злучаныя Штаты, згуртаваныя ў лэмкаўскім зямляцтве, перадалі для 4 вёсак, у якіх існуюць сельскагаспадарчыя гурткі 5500 долараў. За гэтыя грошы вёскам Здыня, Раздзелле, Рэголаў і Навіца, Горліцкага павета, куплены камплекты сельскагаспадарчых машын.

ПАРАДЫ НАШАГА ПРАЎНІКА

## Устрыманне пенсіі

Паводле Распараджэння Рады Міністраў ад 6.V.1958 г. у справе ўстрымання выплаты пенсіі і прынцыпаў выплачвання інвалідскай выраўнаўчай пенсіі устрымлівалася выплачванне пенсіі па старасці і інвалідскай пенсіі, прызнанай з іншых прычын, чым выпадак пры працы, у тых выпадках, калі той, хто мае права да пенсіі, з'яўляецца ўласнікам, уладальнікам або карыстаецца сялянскай гаспадаркай, гадавы даход якой паводле ацэны, устаноўленай для падатку, перавышае 4000 зл. Пры даходзе ад 4000 да 6000 зл. выплачвалася палавіна пенсіі.

Гэта распараджэнне зменена Распараджэннем Рады Міністраў з 11.IV. 1962 г. (Dziennik Ustaw Nr. 24 poz. 110). Гэта распараджэнне мае законную сілу ад 1 студзеня 1962 г. Яно прадбачыць устрыманне выплаты пенсіі ўласнікам, уладальнікам або карыстаючымся сялянскімі гаспадаркамі, калі даход, аблічаны для ўстанаўлення падатку, перавышае 9680 зл. Палова пенсіі выплачваецца пры даходзе ад 9860 зл. да 14.520 зл.

Варта заўважыць, што выплата пенсіі затрымліваецца таксама ў выпадку, калі той, хто хоча атрымаць пенсію, пяць год перад атрыманнем права на пенсію па старасці або пасля выступлення з просьбай аб прызнанні пенсіі перанёс уласнасць гаспадаркі на жонку (або жонка на мужа), якая вядзе з ім супольную дамашнюю гаспадарку. Гэта адносіцца да гаспадарак, якія даюць даход звыш 9680 зл.

## Ветліва просім

Нядаўна да нашай вёскі Ляшукі завітала беларуская эстрада «Лявоніха». Хоць у вёсцы было вяселле, аднак хапіла гледачоў. Школьны зал быў поўны. Усе вельмі цешыліся, што «Лявоніха» нас не забывае. Першы раз была ў нас эстрада ў 1960 годзе. Тады выступаць артыстам было цяжка. У старой школе быў малы зал. Цяпер шмат выгадней. Маем новую школу і шмат большы зал.

Праграма «Лявоніхі» усім спадабалася. Ад імя жыхароў Ляшукоў і Міхноўкі дзякую «Лявонісе», што пра нас не забывае, і запрашаю на наступнае выступленне з новай праграмай.

**Аляк Харкевіч**
Ляшукі

## Наступіў пералом

Сельскагаспадарчы гурток Багнюкі - Тайніца мае вялікія перспектывы развіцця. Да яго пакуль што належыць 32 гаспадары з суседніх вёсак: Багнюкоў, Тайніцы Дольнай, Тайніцы Гурнай, Бандароў і Рыбакоў. Зараз гэты сельгасгурток, які ўзначальваецца Сцяпанам Багнюком, закупіў 2 трактары з цэлымі камплектамі сельскагаспадарчых машын.

Сельгасгурткоўцы з Юшкавага Груда таксама купілі трактар з усімі сельскагаспадарчымі машынамі.

У невялікіх вёсках Аднога і Сушча сельскагаспадарчыя гурткі таксама прыступілі да механізацыі сельскагаспадарчых работ. Цяпер гурткоўцы карыстаюцца там супольным малацільным агрэгатам і апырсківачамі.

І так ва ўсходніх вёсках Беластоцкага павета, якія лічыліся дагэтуль «непрыступнымі» да супольнага гаспадаравання, зараз наступіў вялікі пералом. Сяляне пераканаліся, што няма чаго баяцца сельгасгурткоў, што супольная праца машынамі дае вялікую карысць.

**М. Х.**

## У новае

Раней у нас гаварылі, што Навіны падобныя да яўрэйскіх кучак. Цяпер выгляд нашай вёскі мяняецца ў вачах. Растуць мураванкі, у гаспадароў — гумовыя вазы, у хлопцаў — матацыклы.

У гэтым годзе вёска будзе выглядаць найпрыгажэй. Укладаецца новы брук, па баках вуліцы тратуары. На вуліцы ўжо не будзе стаяць вада, як дагэтуль. Пасвятлеюць і нашы хаты ад электрычнага святла. Вёска ўступіць у новае жыццё.

**Зіна Ялінік**

## Сяляне пакінулі малаціць рукамі

У нашай вёсцы ўсе пакінулі малаціць цэпам, у нас малоцяць камбайнам, які ў 1960 годзе купіў мясцовы сельгасгурток. Сельгасгурткоўцы абслугоўваюць камбайнам таксама і не членаў гуртка, здабываючы гэтым самым іх паважанне. Дзякуючы гэтаму ў нас ўжо даўно закончаны абмалоты.

**Янка Цялушэцкі**
Нозае Ляўкова

## Наша крама

Крама ў Тарнопалі змяшчаецца ў цесным пакоі ў хаце прадаўшчыка Янкі Садоўскага. Жыхары Тарнопаля часта марылі аб прасторнай краме. І вось у чэрвені г. г. адбыўся сход, на якім прадстаўнікі ГС запрапанавалі супольнымі сіламі пабудаваць новую мураваную краму. На другі дзень жыхары нашай вёскі звезлі каменне і прыступілі да закладкі фундамента. Залажыўшы фундамент, сяляне прывезлі пустакі і цэглу, і пачалася пабудова. Яна ўжо хутка закончыцца і будзем мець новую прасторную краму.

**Янка Бура**
Тарнопаль

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## ТОНКАЯ САСЕНКА

**Тонкая сасёнка**
**Ў лесе зашумела,**
**Тагда дзяўчыначка**
**Замуж захацела.**

**Ці ты, дзяўчыненька,**
**Век хлеба не ела,**
**Як ты, маладзенька,**
**Замуж захацела?**

**Лепей стань, падумай,**
**Каб не ашукацца.**
**Будзе табе горай,**
**Як у роднай маткі!**

**Сядзеш над калыскай,**
**Будзеш калыхаці.**
**Люлі, мой сыночак!**
**Песенькі спяваці.**

Запісаў **Павел Грыгарук**, вуч. Беларускага ліцэя ў Бельску Падл., ад Насці Ясюк з Чыжоў (66 год).

## Меліярацыя без сумненняў

Аб меліярацыі жыхары Навасад, Беластоцкага павета, зараз таворац з вялікім прызнаннем. Бо і сапраўды меліярацыя іх абагаціла і, дзякуючы ёй, у Навасадах карэнным чынам узрос узровень жыцця. Некалі тут былі не сенажацці, а проста дрыгвяністыя балоты, якія цягнуліся далёка за граніцу, мо' дзе да Палесся і Пінска. Бывала, секане дождж, дык на сенажаці Навасадаў не ўлезеш. Скошанае сена лодкамі трэба было вывозіць з дрыгвы. Ды якое ж тады расло тут сена? Адны дуды. Таму і трымалі навасадскія гаспадары па адной толькі кароўцы. Карміць не было чым. Меліярацыя была праведзена ў 1948 годзе. Недаверліва тады глядзелі навасадцы на меліярацыйныя працы.

— Раскапаюць, — гаварылі, — дык зусім не ўлезеш на балоты.

Але меркаванні іх не апраўдаліся. На змеліяраваных сенажацях вырасла высакаякаснае сена. Зараз корму жывёле ў навасадцаў хоць адбаўляй.

— Я, напрыклад, — кажа Язэп Кардаш, — на сваёй 4-гектаравай гаспадарцы ледзь мог утрымаць адну кароўку. А зараз, пасля меліярацыі, трымаю 3 каровы і сёлета яшчэ пакінуў гадаваць двое цялят.

Так сама павялічылі жывёлагадоўлю і другія жыхары Навасад. Зараз яны ў сярэднім дзённа прадаюць каля 1000 літраў малака. А калісь нават дзецям яго не хапала.

У Навасадах існуе водная суполка, да якой належаць і жыхары ўсіх навакольных вёсак. Суполка пастаянна клапоціцца аб добрым ўтрыманні меліярацыйных равоў і пропускаў. Суполка клапоціцца таксама і за адпаведнае загаспадараванне пасбішчаў. А з імі ў Навасадах кепская справа. Яны зусім заняпалыя. Гэта не пасбішчы, а проста стаянкі для кароў, толыя, як бубен. Большасць навасадцаў ізноў сумнявалюцца.

— Заарэм пасбішчы, — кажуць, — дык дзе ж кароў будзем пасвіць.

Першы адважыўся Язэп Кардаш. У ліпені пасбішча яму зааралі і засеялі травой. І вось, на былым «бубне» вырасла такая трава, што каровы елі ўдосталь і яшчэ касіць можна было. Мо' гэта пераканае навасадцаў?

(вб)




ПРАГРАМА
на 15 — 21.X.1962 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Letni sen" (szwedzki), 16—18. „Ukryte skarby" (czeski), 19—21.

**Кляшчэлі**
„Domek z kart" (polski), 16—18. „Pragnienie" (rumuński), 19—21.

**Навасады**
„Słońce wschodzi nad Bengalem" (pakistański), 20—21.

**Нараў**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 17—21.

**Нараўка**
„Drzwi stoją otworem" (jugosł.), 17—21.

**Чаромуха**
„Stracone złudzenie" (angl.), 16—18. „Tu radio Gliwice" (NRD), 19—21.

**Чыжы**
„Alba Regia" (węgierski), 17—21.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Skok o świcie" (radz.), 17—21.

**Бранск**
„Champion" (USA), 16—18. „Noc szpiegów" (franc.), 19—21.

**Гродзіск**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 20—21.

**Орля**
„Taka miłość" (czeski), 17—21.

**Райск**
„100 kilometrów" (włoski), 17—21.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Uskrzydleni" (NRD), 16—18. „Żebro Adama" (USA), 19—21.

**Міхалова**
„Pragnienie" (węgierski), 16—18. „Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 19—21.

**Супрасль**
„Mały marzyciel" (radz.), 16 18. „Komedianty" (polski), 19—21.

**Чорна Беластоцкая**
„W krainie białej czapli" (polski), 16—18. „Jewdokia" (radziecki), 19—21.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Mali muszkieterowie" (radziecki), 16—18. „Tajemnica starej kopalni" (angl.), 19—21.

**Міленчыцы**
„Pierwszy lot w kosmos" (radziecki), 16—18. „Herszt" (francuski), 19—21.

**Нурэц**
„Aby kwitło życie" (polski), 16—18. „Uśmiech nocy" (szwedzki), 19—21.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Przeciwnicy" (węgierski), 16—18. „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 19—21.

**Сухаволя**
„Zuzanna i chłopcy" (polski), 16—18. „Długa noc 1943" (włoski), 19—21.

**Шудзялава**
„Salwa o świcie" (radz.), 17—21.

**Янаў**
„Król strzelców" (czeski), 16—18. „Drzwi stoją otworem" (jugosł.), 19—21.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Wyższa zasada" (jugosł.), 20—21.

**Новы Двор**
„Gorsza miłość" (węgierski), 20—21.

**Ружаны Сток**
„Zmartwychwstanie" (radz.), 20—21.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $, w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Błtk F-3

